 

# Верны абаронца працоўных

Перад намі на здымку мірны летні дзень. Беласценныя гмахі беларускай сталіцы патанаюць у сакавітай зелені і свабодным спакоі...

Але што гэта? Ва ўсю шырыню прасторнага Ленінскага праспекта, гулка адбіваючы маршавы крок, ідуць яны — героі мужнай гісторыі Савецкай Арміі!

У першым шэрагу з чырвонымі какардамі на грудзях крочаць маракі-балтыйцы, рабочыя-петраградцы, сяляне-наўгародцы. Таксама як тады, у той снежны і студзёны ранак **23 лютага 1918 года**, калі займалі баявыя пазіцыі, каб бараніць маладую Савецкую Расію і яе сталіцу Чырвоны Петраград ад полчышчаў нямецкіх захопнікаў. І гэты дзень крывавага і мужнага бою стаў днём баявога хрышчэння, Днём Славы.

Тут жа побач і маладзецкія коннікі-будзёнаўцы — пагромшчыкі белагвардзейшчыны і замежных інтэрвентаў у гарачыя гады Грамадзянскай вайны. Далей жа — удзельнікі баёў каля возера Хасан. За імі — гераічныя абаронцы Брэсцкай крэпасці над Бугам, заснежаных акопаў пад Масквой, руінаў Сталінграда, абрывістых прадгор'яў Каўказа і вызваліцелі з-пад фашысцкага іга роднай зямлі і брацкіх краін у вогненныя гады Вялікай Айчыннай вайны.

Наперадзе — ён, воін-волат, з факелам-светачам у руцэ, бо Савецкая Армія заўсёды была, ёсць і будзе надзейным абаронцам працоўнага люду і яго шчаслівых светлых дзён.



## Што новага?

## „Справа Ментэна"

У ноч на 7 снежня ў малапрыкметнай гасцініцы ціхага швейцарскага гарадка Устэр (за 20 кіламетраў ад Цюрыха) быў затрыманы ваенны злачынец галандскі мультымільянер Пітэр Ментэн, вінаваты ў арганізацыі масавых катаванняў мірных жыхароў у акупіраваных гітлераўцамі раёнах Польшчы і Украіны. Даведаўшыся аб непазбежнасці свайго арышту, ён 14 лістапада ўцёк з Галандыі і быў знойдзены ў выніку пошуку, арганізаванага галандскім часопісам „Акцэнт" і заходнегерманскім „Штэрн". Прыбыўшым з Галандыі паліцэйскім і прадстаўнікам швейцарскай паліцыі заставалася толькі затрымаць злачынца.

Уцёкі Ментэна выклікалі ў Галандыі буру абурэння і пратэстаў супраць пасіўных дзеянняў улад у адносінах да нацысцкага злачынцы. Больш таго, яны з'явіліся прычынай узнікнення палітычнага скандала, які ледзь не прывёў да адстаўкі намесніка прэм'ер-міністра і міністра юстыцыі ван Агта. З трыбуны парламента і на старонках друку адкрыта гаварылася аб тым, што ўсе пасляваенныя гады галандскія судовыя органы выгараджвалі нацысцкіх ваенных злачынцаў. Былі выкрыты сябры і апекуны Ментэна сярод суддзяў, палітычных і дзяржаўных дзеячоў. Урад вымушаны быў згадзіцца з патрабаваннем парламента расследаваць дзеянні юстыцыі ў „справе Ментэна" за ўвесь пасляваенны перыяд.

Уцёкшы нацыст, відаць, адчуў сябе ў Швейцарыі ў поўнай бяспецы. Ён толькі крыху змяніў сваё прозвішча, назваўся Мінтэнам і спакойна займаўся сваімі фінансавымі справамі, рыхтаваў план уцёкаў з Еўропы. Не раз выкруціўшыся з дапамогай сваіх сувязей і грошай ад заслужанай кары, ён і цяпер быў упэўнены ў тым, што выйдзе сухім з вады. Ад арыштаваўшых яго паліцэйскіх ён нахабна запатрабаваў вызвалення з-пад варты, спаслаўшыся на швейцарскі закон аб сканчэнні тэрміну даўнасці зробленых ім у гады другой сусветнай вайны злачынстваў. З дапамогай сваёй жонкі і нанятых адвакатаў былы нацыст перайшоў у наступленне, спрабуючы дабіцца свабоднага выезду з краіны.

Іграючы на антыкамунізме і антысаветызме пэўных галандскіх колаў, ён спрабаваў заручыцца іх падтрымкай. Гэтыя колы, як вядома, заступаліся за яго ў час першага судовага працэсу ў 1947 годзе, а таксама ў 1950 годзе, калі ўрад Галандыі нават не адказаў на просьбу Польшчы аб выдачы злачынца. Аднак, як пісала галандская газета „Хет фрайе фолк", за многія гады, пакуль Ментэн жыў у сваёй раскошнай віле ў г. Бларыкуме, ён яўна забыўся, што час не стаіць на месцы. У абстаноўцы ўсеагульнага абурэння беспакаранасцю Ментэна і многіх іншых нацыстаў, што выкруціліся ад пакарання, ніхто не асмеліўся адкрыта выступіць у падтрымку мільянера. Пралічыўся Ментэн і ў другім. Разгледзеўшы прад'яўленыя Галандыяй і Савецкім Саюзам абвінаваўчыя дакументы, Федэральны савет Швейцарыі прыняў рашэнне выгнаць з краіны і перадаць яго ў рукі галандскай юстыцыі. 22 снежня ён быў дастаўлены на спецыяльным самалёце ў Галандыю і змешчаны ў адну з турмаў Амстэрдама.

Галандскай і сусветнай грамадскасці цяпер добра вядома, хто хаваўся пад маскай дасягнуўшага поспеху бізнесмена. Фатаграфіі былога эсэсаўца былі надрукаваны газетамі ўсяго свету, здабыткам галоснасці сталі паказанні сведак з розных краін аб масавых расправах над мірнымі жыхарамі, учыненымі пад кіраўніцтвам Ментэна, аб яго дачыненні да аграблення кватэр групы выкладчыкаў Львоўскага універсітэта, расстраляных гітлераўцамі 4 ліпеня 1941 гора разам з членамі іх сем'яў. Сталі вядомыя і іншыя факты са злачыннага мінулага Ментэна. Як паведаміла газета „Хет фрайе фолк", адразу ж пасля вяртання ў 1943 годзе ў Галандыю нацыст пусціў у абарот награбленыя каштоўнасці. За кароткі час ён скупіў за бясцэнак цэлыя жылыя кварталы ў Амстэрдаме. Толькі цяпер, праз больш як трыццаць гадоў, галандцы даведаліся аб тым, што ўсе гэтыя дамы нацыст атрымаў ад нацысцкіх устаноў, у падначаленне якіх паступала нерухомая ўласнасць расстраляных галандскіх грамадзян — антыфашыстаў і знішчаных у печах крэматорыяў яўрэйскіх сем'яў. І як гэта ні парадаксальна, Ментэн у 1947 годзе, пасля васьмімесячнага папярэдняга зняволення быў прызнаны законным гаспадаром гэтай нерухомай маёмасці.

Цяпер усе дакументы, якія датычаць новых фактаў абагачэння злачынцы за кошт ахвяр нацысцкага тэрору, перададзены ў міністэрства юстыцыі і стануць прадметам разгляду толькі што створанай камісіі па расследаванню „справы Ментэна". Аднак, як справядліва ўказвала тая ж газета „Хет фрайе фолк", пачуўшы пагрозу, злачынец паспеў своечасова пазбавіцца аб кампраметуючай яго ўласнасці і, ператварыўшы яе ў „звонкую манету", схаваць у сейфах швейцарскіх банкаў.

**Б. Г.**

(Працяг са стар. 1)

## Ад чаго баліць галава

ў той жа час мілейчыцкая спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў, якая тут накапіла ўжо звыш паўтысячы гектараў сялянскай зямлі, не мае ў сябе аніводнай кароўкі, аніводнага парсючка.

— Тучарня для СКР на 3200 штук, — інфармуе начальнік, — будзе ў нас пабудавана ў гадах 1978-1979, калі, вядома, — засцерагаецца ён, — дзе што да гэтага часу не адменіцца.

І яшчэ дадае, што гмінная сельскагаспадарчая служба ў час практычных паказаў будзе вучыць сялян, як нарыхтоўваць сілас з зялёнай травы і з іншых раслін. Такія паказы наладжаны будуць перш за ўсё ў тых вёсках, у якіх найбольш сенажацяў: Паканеве, Любейках, Клімковічах, Валках, Мілейчыцах і Мядзвежыках... У планах начальніка таксама сялянскія суполкі для гадоўлі свіней і кароў, і з гэтым ён хоча звярнуцца да гаспадароў з Паканева, Клімковічаў і Любеек...

І гэта мой сябар адзначае з асаблівым гонарам. А мне яго (а не толькі яго) шкада, бо не прыдумаў ён тут нічога новага. У іншых раёнах Беласточчыны, для прыкладу, у сялян Манецкай гміны, гэта ўжо штодзённая практыка іх гаспадаркі. Добра было б павучыцца ад суседзяў і тады менш балела б галава ад думак пра тое, што ўжо выдумана.

З пашанай

**Максім Нурэцкі**

## Ці ведаеце, што...

### ПЕВЕНЬ У АКУЛЯРАХ

У Даніі нярэдка можна ўбачыць, як на фермах гуляюць пеўні ў пластмасавых акулярах. Як вядома, гэтыя птушкі вельмі задзірыстыя і бойкі з сапернікамі забіраюць у іх нямала сілы і энергіі. Дацкія спецыялісты ўстанавілі, колькі траціць у вазе певень у час бойкі, і высветлілася, што ў агульным падліку гэта — сотні кілаграмаў мяса. Лёгкія пластмасавыя акуляры, насаджаныя на дзюбу, замінаюць пеўню глядзець удалечыню і таму ён не бачыць саперніка і не лезе ў бойку.

МНОГАЕ, БРАТОК, ГУБЛЯЕШ, КАЛІ „НІВУ" НЕ ЧЫТАЕШ!

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota — 19.II.** 6.00 Tech. Rol. Upr. rośl. 6.30 Hod. zwierz. 10.00 Czerwone, żółte, ziel. 11.30 Teatr Sensacji: Helena Sekuła „Przerwana gra" (powt.). 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Hod. zwierz. 15.05 Red. szk. zap. 15.15 Pr. dnia. 15.20 Dla dzieci. 15.50 Radzimy rol. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Sobota Mł. 17.30 Czekam na Monte Carlo — fab. film pol. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Zaślepienie — ameryk. dramat obycz. 22.10 Dziennik. 22.25 Pr. rozr. 23.20 Cyrulik Todd — ang. film sens.

**Niedziela — 20.II.** 6.45 Tech. Rol. J. pol. 7.15 Hod. zwierz. 7.45 Nasze spotk. 8.00 Alarm przeciwpoż. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Sport. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Szedł żołnierz — film dok. radz. 12.15 Dziennik. 12.25 Rolnicze rozmowy. 13.05 Piotr Paleczny. 13.45 Dla dzieci. 14.25 Piórkiem i węglem 14.50 Los. Duż. Lot. 15.05 Killy w Aberiaz — fr. pr. rozr. 16.10 Sport. 17.00 Tele-Echo. 18.00 Teatr Komedii. Jan Solovič „Zagmatwana sytuacja". 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Bajka dla dor. 20.40 Film fab. 22.50 Pr. rozr. 23.25 Sport.

**Poniedziałek — 21.II.** 12.45 RTV Szk. Śred. Chem. 13.25 Biol. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Zwierzyniec. 17.55 Wysoko ku niebu — ostat. odc. ser. radz. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr Tel. S. Żeromski „Turoń". 22.00 Camerata. 22.35 Fritz Roy — odc. I filmu dok. pt. „Wzdłuż Andów". 22.50 Dziennik.

**Wtorek — 22.II.** 6.00 RTV Szk. Śred. Chem. 6.30 Biol. 9.00 Dla kl. V. J. pol. Spotk. z pisarzem. 12.00 Dla kl. IV lic. B. Brecht „Kariera Artura Ui". 12.55 Rodzina współcz. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Mech. rol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Sport. 17.55 Interstudio. 18.25 Komicy niemego ekranu. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Lucjan Lueuwen — odc. II filmu ser. 22.15 Pr. publ. 22.45 Dziennik.

**Środa — 23.II.** 6.00 Tech. rol. Mat. 6.30 Mech. rol. 11.05 Dla kl. VIII. Fiz. 12.00 Kl. VIII. Chem. 12.45 RTV Szk. Śred. Mat. 13.25 Fiz. 14.00 W drodze do nowego. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.45 Lekt. Pegaza. 18.00 Sport. 18.35 Świat, który nie może zaginąć — film dok. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Los generała — radz. dramat woj. 22.05 X Y Z cz. I. 22.45 Dziennik.

**Czwartek — 24.II.** 6.00 RTV Szk. Śred. Mat. 6.30 Fiz. 9.00 Dla kl. VIII i I lic. Przysp. obr. 10.00 Dla kl. II lic. J. pol. Skamandryci i Awangarda. 12.55 Dla kl. IV lic. Inscenizacja tel. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Upr. rośl. 16.25 Pr. dn. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Turniej z Bratkiem. 18.00 Dwieście pięćdziesiąty trzeci — start — rep. 18.20 Eureka. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Kojak — film ser. USA. 21.25 Pegaz. 22.10 Z cyklu „Rodowody" pr. pt. „Pseudonim Swoboda". 22.50 Dziennik.

**Piątek — 25.II.** 6.00 Tech. Rol. Fiz. 6.30 Upr. rośl. 9.00 Dla kl. III: Nuty Pana Fryderyka. 11.05 Dla kl. I—III lic. Wych. tech. 11.35 Kojak — film ser. USA. 12.45 Tech. Rol. Upr. rośl. 13.25 Mech. rol. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Sport. 17.50 Na śmierć i życie — odc. III filmu ser. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Hasło — film TP. 21.30 Pamiętnik wychowawcy — odc. II filmu fab. wł. 22.30 Dziennik.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 18.II.** — 7.30 Film fab. 8.30 Koncert. 13.55 Film dla dzieci. 17.00 Łyżwy. 19.30 Film muz. 20.40 Filmy anim. dla dorosłych.

**Sobota 19.II.** — 7.30 Pr. dla dzieci. 11.00 Koncert. 12.00 Hokej („Skrzydła Rad" — „Dukla" CSRS). 14.15 Pr. dla dzieci. 15.40 Film anim. 17.25 Film fab. 21.00 Sport.

**Niedziela 20.II.** — 11.30 Film fab. 13.30 Koncert. 15.30 Filmy anim. 17.15 Związek Radziecki w oczach gości zagranicznych. 20.45 Sport.

## КІНО

**Białowieża** Portret rodzinny we wnętrzu — wł. 22—23. Rodzina — pol. 24—25. Morderstwo w Orient Expressie — ang. 26—27.

**Bielsk Podlaski** Słodki dom — belg. 22—23. Płonący wieżowiec — USA 24—27.

**Czyże** Afonia — radz. Kto szuka złotego dna — czes. 23—27.

**Dubicze Cerkiewne** Ściana — rum. Osaczeni w dolinie — czes. 23—27.

**Kleszczele** Piosenka za koronę — czes. 22—23. Wielki układ — pol. 24—25. W te dni przedwiosenne — pol. 26—27.

**Michałowo** Tajemnica rękopisu — radz. 22—23. Porachunki — ang. 24—25. Nieśmiertelni — rum. 26—27.

**Mielnik** Jak zdobyć prawo jazdy — fr. 23. Chłopiec z gitarą — radz. 26—27.

**Milejczyce** Helga — RFN 22—23. Janosik — pol. 24—25. Słodko gorzko — bułg. 26—27.

**Narew** Moja wojna moja miłość — pol. Ostatni skok gangu Olsena — duń. 23—27.

**Narewka** Trzecia córka — radz. Hazardziści — pol. 23—27.

**Nurzec** Jesień debiutantów — rum. 22—23. Operacja „Dąb" — rum. 24—25. Dzień szarańczy — USA 26—27.

**Orla** Tak zaczyna się miłość — czes. Największe wydarzenie, gdy człowiek stanął na księżycu — fr. 23—27.

**Rajsk** Drzewo bez korzeni — buł. 23—27.

B.Z.Graf. Zam. 422 B-4



 

(Працяг са стар 1)

# НЕ ГОРШ УДАЛАГА МУЖЧЫНЫ...

што ва ўсім настаўніцкім калектыве яна самая маладая і па гадах і па настаўніцкаму стажу, не аблягчае ёй працы. Часам даводзіцца звярнуць увагу ці даць загад настаўніцы старшай ад яе самой. Дзеці таксама, як дзеці: у большасці вельмі ветлівыя, старанлівыя, працавітыя. Але ёсць адзін, пра якога родная маці, прыйшоўшы ў школу, кажа: „Калі хто-колечы што-лень добрае можа з ім зрабіць, дык гэта школа. У школе то ён яшчэ лепшы, а дома я зусім яму не даю рады". Што ж, настаўніцы ды дырэктар мусяць „даць рады", такі ўжо іх лёс. А ў школе — усе настаўніцы, ніводнага мужчыны!.. Ды гэта не толькі ў Барысаўцы, ва ўсёй Гайнаўскай гміне працуе ўсяго трое (!) мужчын-настаўнікаў. Бяда... Але, відаць, В. Дзмітрук і ў школе і ў асяроддзі спраўляецца не горш самага ўдалага мужчыны, калі тутэйшая пярвічная арганізацыя ПАРП даручыла ёй тры гады таму назад функцыю свайго сакратара.

— Цяпер у нашай ПОП ідзе партыйная вучоба. Вядзем яе мы, настаўніцы — члены партыі, — інфармуе яна. — Кожная выбірае тэмы па праграме, рыхтуецца, затым выступае перад партыйнай арганізацыяй. Вынікі добрыя, бо кожны імкнецца правесці заняткі на высокім узроўні, цікава. У цэнтры ўвагі ПОП з'яўляецца павелічэнне ва ўласных гаспадарках членаў партыі і ва ўсім сяле вытворчасці сельскагаспадарчых прадуктаў і перш за ўсё — гадоўлі. Кожны атрымаў на бліжэйшы год канкрэтныя заданні і прыступіў да іх выканання. У нашых шэрагах ёсць выдатныя гаспадары. Для прыкладу, Сцяпан Пуц — II сакратар ПОП ПАРП і солтыс — з'яўляецца вельмі салідным, дзелавітым чалавекам і дасканалым гаспадаром, гадуе і дастаўляе дзяржаве многа ўбойнага быдла, кантрактуе збожжа.

І ўсе гэтыя немалыя службовыя абавязкі і грамадскія працы В. Дзмітрук заўсёды імкнецца выканаць салідна і своечасова, нягледзячы на тое, што часу ў яе ў абрэз, бо муж працуе на перагрузачнай станцыі ў Семяноўцы, ёсць у іх пяцігадовая дачанька і жывуць яны ў невялікім нанятым пакойчыку. І ў ім іменна яна штодзень рыхтуецца да заняткаў па свайму любімаму прадмету — беларускай мове. А што вядзе іх добра — сведчыць атрыманая ёю сёлета ўзнагарода Беластоцкага куратара асветы і выхавання за выдатныя дасягненні ў педагагічнай працы.

**М. Гайдук**



*Барысаўскія школьнікі і настаўнікі на экскурсіі ў т.зв. „Воўчым логаве". У першым радзе першая злева дырэктар Валянціна Дзмітрук.*

## Беларусіяна

### У АКРУЗЕ КАЗКІ

Тры гады таму назад, а дакладней у 1973 годзе, у руках польскага чытача апынуўся аб'ёмісты, багата ілюстраваны том беларускіх народных казак „Чортавая скрыпка", выбраных з запісаў Міхала Федароўскага і перакладзеныя на польскую мову Аляксандрам Баршчэўскім. З'яўленне кніжкі было так казачным і так магічным уздзеяннем, што мала хто задумоўваўся над тым, што „Чортавая скрыпка" — гэта кропля ў параўнанні з велізарнай колькасцю тэкстаў беларускай народнай прозы, якая адыграла такую вялікую ролю ў развіцці польскай рамантычнай літаратуры і была запісана многімі фалькларыстамі. Невядома, ці перакладчык і складальнік „Чортавай скрыпкі" выбягаў тады думкамі ў будучыню і бачыў наступныя тамы, але факт, што ў канцы мінулага года чытач атрымаў ад яго, гэта значыць ад Аляксандра Баршчэўскага, новы том перакладзеных казак „Нявычарпаны збан", выдадзены Людовай выдаўнічай спулдзельняй тыражом 10.000 экземпляраў. У томе знаходзяцца: прадмова, пяцьдзесят адзін тэкст, пераплецены каляровымі, тэматычна звязанымі з казкамі ілюстрацыямі Мар'яна Мураўскага, і каментарый, які памяшчае ў сабе загалоўкі казак на беларускай мове, імя і прозвішча інфарматара, мясцовасць, прозвішча запісчыка, а таксама крыніцу, з якой былі зачэрпнуты перакладчыкам. Ва ўступе Аляксандр Баршчэўскі дае агульныя звесткі аб дзейнасці заслужаных у развіцці беларускай фалькларыстыкі людзей, да збораў якіх ён звяртаўся.

Калі папярэдні том беларускіх казак абапіраўся толькі і выключна на тэксты, сабраныя М. Федароўскім з польска-беларускага этнічнага паграніччa і змешчаныя ў шматтомным выданні „Люд беларускі", то гэтыя складаецца з казак, сабраных у цэнтральнай, усходняй і паўднёвай частках Беларусі фалькларыстамі: Аляксандрам Сержпутоўскім, Еўдакімам Раманавым і Паўлам Шэйнам. Змешчаны таксама тэксты, узятыя з цыкла, выдадзенага ў апошнія гады Інстытутам гісторыі мастацтва, этнаграфіі і фальклору АН БССР, і некалькі М. Федароўскага. „Нявычарпаны збан" змяшчае найбольш казак магічных і жывёльных. Каб глыбей і дакладней паказаць быт, характар, веру і дарогу рэвалюцыйнага развіцця свядомасці беларуса, Аляксандр Баршчэўскі ўвёў некалькі тэкстаў з гумарыстычнай, сатырычнай і грамадскай тэматыкай. Абмінем характарыстыку казак як твораў, па-свойму мастацкіх, бо вядома, што шкілетам амаль кожнай казкі з'яўляюцца дзве супярэчныя сілы, якія змагаюцца, і вядома, што перамога будзе на баку станоўчай. Найважнейшае, што беларуская народная казка пашырыла абшар свайго бытавання і навязала знаёмства з новым чытачом.

**Міхась Шаховіч**

## АД РОДНЫХ НІЎ

### БЫЛОЕ

*Я у вёсцы нарадзілась,*
*А як трошкі падрасла,*
*Збожжа цэпам малаціла,*
*Сечку рэзала сама.*

*Як вясна прышла, да лесу*
*На заробкі вышлі ўсе.*
*Вышлі бабы і дзяўчаты*
*У вясновай у красе.*

*Ад усходу да заходу*
*Гапацелі дзярміну.*
*Гапацелі і пацелі*
*За златоўку, больш то не.*

*Раз лясьнічы паўзіраўся,*
*Падыходзіць да мяне*
*(Пан лясьнічы Дудай зваўся),*
*Падыходзіць і гудзе:*

*— Даю акард — пяць гектараў —*
*Казё з Плянт, з Вострава дзве.*
*Заробіце штонемяра.*
*Старайцеся, па, ад'е!*

*Мы ўзяліся за работу,*
*Яна у руках кіпіць.*
*Працаваць была ахвота,*
*Бо хацелі зарабіць.*

*Мазалі былі, як вішні,*
*На далонях ва усіх.*
*Падлічылі: на асобу*
*Два з паловай залатых.*

*А як прышло да выплаты,*
*Па злот семдзесят далі.*
*Гэта Дуда — чорт брухаты —*
*Абарваў і абхлусіў.*

*Пры дарозе ліпамосцкай,*
*Дзе зялёны крыж стаіць,*
*Малады там лес выносны*
*З небам казкі гаманіць.*

*Гэта і ёсць памятка нашых*
*мазалёў.*

**А. Лісоўская,**
Беласток

(Працяг са стар 1)

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ — 77

У аглядзе прыняло ўдзел 9 салістаў, 4 дуэты і 10 калектываў, разам звыш 70 спевакоў і музыкантаў. Журы ў складзе: **Р. Гратоўскага,** прадстаўніка Ваяводскага праўлення Саюза пажарных каманд, і **Ю. Зыська,** працаўніка Ваяводскага дома культуры, пад старшынствам **А. Чэчуга,** сакратара рэдакцыі „Нівы", ацэньвала ўдзельнікаў агляду ў дзвюх катэгорыях: сучаснай песні і фальклорнай песні.

У катэгорыі фальклорнай песні сярод салістаў **два раўназначныя першыя месцы** занялі **Аляксандр Раманюк** з Дубяжына і **Зоф'я Цацэрка** з Баброўнікаў, **другое — Анна Стахіюк** з Трасцянкі, **трэцяе — Аляксандра Бонкард** зНараўкі. **Дуэты Ніна Мушынская і Ніна Цыванюк** з Гарадка занялі **першае** месца, а **Мікалай Мінько і Аляксандр Монах** з Беластока — **другое. Жаночы калектыў з Арэшкава і мужчынскі з Дубяжына** занялі **два раўназначныя першыя месцы, калектывы з Дабраводы і Скупава — два раўназначныя месцы другія, калектыў з Беластока — трэцяе месца.**

У катэгорыі **сучаснай песні** салістка **Люба Гаўрылюк** з Беластока заняла **першае месца, Тамара Ільяшук** з Бельскага беларускага ліцэя — **другое, Аліна Юшкевіч** са Збуча — **трэцяе.** З дуэтаў **Людміла Грайко і Тамара Ільяшук** з Бельскага беларускага ліцэя занялі **першае месца, другое — Галена Кот і Ірына Паўлючук** з Гарадка. **Калектыў з Гарадка** заняў **першае месца, з Бельскага беларускага ліцэя — другое,** з **Плёскаў — трэцяе.** Журы адзначыла таксама ўдалыя выступленні салістаў **Любы Шварц** з Дубічаў Царкоўных і **Антаніны Шымчук** з Грыгораўцаў, а таксама калектываў з **Мілейчыцаў** і **Тапаркоў.** За найлепш выкананую фальклорную песню **спецыяльную ўзнагароду „Нівы"** атрымаў **А. Раманюк.**

У перапынку паміж конкурснымі выступленнямі і аб'яўленнем вынікаў перад слухачамі амаль усе салісты і калектывы праспявалі дадаткова па некалькі песень.

Спраўна вяла канцэрт **Людміла Васілюк.**

Аб'яўляючы вынікі, старшыня журы **Ада Чэчуга** сцвердзіла, што сёлетні агляд стаяў на самым высокім узроўні ў параўнанні з папярэднімі. Відаць было вялікае рэпертуарнае багацце і заангажаванне спевакоў. Усіх запаланілі сваім майстэрствам нестар песеннай самадзейнасці на Беласточчыне заслужаны калектыў з Гарадка і толькі што паўстаўшы, малады і таленавіты — з Бельскага беларускага ліцэя. Высокае выканаўчае майстэрства паказалі таксама салісты і дуэты. На аглядзе пераважалі беларускія народныя песні, сабраныя самімі выканаўцамі па ўсёй Беласточчыне, і гэта асабліва ўсіх нас радуе. Блізкая сэрцу, мілагучная, цудоўная наша беларуская народная песня! Шануйма яе і пашырайма!

Шырэйшыя разважанні і спасцярогі аб сёлетнім конкурсе „Беларуская песня" будуць апублікаваны ў наступным нумары нашага тыднёвіка.

**Ігнат Снарскі**
**Фота Кшыштафа Свідэрскага**



*Журы было аднадумнае.*

## „У ТАРАШКЕВІЧА"

З кожным годам лепш — так трэба акрэсліць і ацаніць працу беларускага ліцэя імя Тарашкевіча ў Бельску. Штораз больш здольная і працавітая моладзь, штораз лепшыя, багацейшыя кабінеты, штораз больш паспяховых алімпійцаў, штораз шырэйшы рух пазашкольнай працы ў розных галінах, штораз лепшыя вынікі навукі, штораз вышэйшы ўзровень школы, штораз большая ёй слава.

Раз на чатыры гады адбываецца ў кожнай сярэдняй школе агульная візітацыя. Гэта вельмі дакладны агляд усяго таго, што і як школа робіць. Такі агляд адбыўся і ў ліцэі. Усе настаўнікі Беларускага ліцэя імя Тарашкевіча ў Бельску ў выніку агульнай візітацыі атрымалі выдатную ацэнку. Усе здалі цяжкі свой экзамен на 5! Гэта адзіная такая школа ў горадзе Бельску. Віншуем тарашкевічаўцаў!

Другая вестка. Таксама датычыць настаўнікаў. Вось аж 6 асоб з ліцэя ў гэтым навучальным годзе атрымалі ўзнагароды міністра асветы і беластоцкага куратара.

Міністра: Анатоль Падолец — русіст, Эльжбета Нядзведская — германіст, Мікалай Стэпанюк — тэхнічнае выхаванне, Анна Ткачук — матэматык.

Куратара: Марыя Красоўская — фізкультура, Вера Рышчук — беларуская мова.

Трэцяя вестка. Паўстае хроніка школы. Манументальная праца, якую распачаў і рэдагуе асабіста дырэктар школы Аляксей Карпюк. І такім чынам, багаты, ды датэтуль раскінуты архіў школы знайшоў месца ў вялікай кнізе, дзе змяшчацца будзе апісальная гісторыя школы, здымкі, часта рэдкія і ў іншым выпадку маглі б быць забытымі, выразкі з газет. У матэрыяле гэтым знайшлі адлюстраванне ўсе важнейшыя з'явы жыцця і перажыванні ліцэя. Рэдактар, не маючы дакладнай хcraналогіі школы да 1971 года, падзяліў яе гісторыю на наступныя перыяды: 1944-46 гады; 1949-71 гады; а далей ідуць гадавыя перыяды: 1971-72, 1972-73 і г.д.

Давялося бачыць многа хронік, у тым ліку і школьных. Наогул яны трактуюцца як лёгкі, часам нават вясёлы, матэрыял на ўспамін. Вялікая хроніка ліцэя імя Тарашкевіча ў Бельску паўстае як сур'ёзны навукова-гістарычны даведнік аб людзях і працы адной рэдкай у краіне, высока пастаўленай арганізацыйна і дыдактычна сярэдняй агульнаадукацыйнай школы.

Вартасць такога даведніка застанецца з цэлай упэўненасцю ў гісторыі асветы на Беласточчыне і асабліва беларускай асветы на гэтай тэрыторыі.

**Вера Леўчук**

# Іх хваляць

Спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў (СКР) у **Гайнаўцы** абслугоўвае індывідуальных сялян з Гайнаўскай і Белавежскай гмін. Гайнаўскі СКР як адзіны ў Беластоцкім ваяводстве гадуе сем тысяч курэй-нясушак. Курыная ферма знаходзіцца недалёка ад Гайнаўкі — у вёсцы Койлы. Пачынаючы ад жніўня мінулага года спулдзельня прадала 523 тысячы яек. СКР у Гайнаўцы гаспадарыць на 552 гектарах зямельных угоддзяў. Працу ў полі механізуе пры дапамозе сотні трактараў, дзесяці збожжавых камбайнаў, 50 бульбакапалак, 45 снопавязалак. Спулдзельцы гадуюць 1 100 свіней. Уласная рамонтнабудаўнічая брыгада пабудуе яшчэ дзве аборы на 1 000 і 3 200 свіней. У мінулым годзе сабралі яны высокі ўраджай бульбы — 202,5 ц/га. Быў ён большы ад сярэдняга ўраджаю ў беластоцкіх СКР-ах на 10 ц/га. За 1976 год гайнаўскі СКР атрымае даход у 700 тысяч злотых.

СКР **у Бельску** ахоплівае сваёй дзейнасцю шэсцьдзесят вёсак, у якіх жывуць 5 463 індывідуальныя гаспадары. У мінулым годзе бельскі СКР прадаў дзяржаве 158 тон мяса. У гэтым годзе ён пачне будаваць свінаферму на 2 100 штук у вёсцы Шасталы.

Варта дадаць, што ў гэтым годзе на некаторых базах пунктаў механізацыйных паслуг будуць пабудаваны сацыяльныя будынкі і, апрача таго, будуць падключаны электрычны ток і тэлефоны.

818 свіней гадуе СКР **у Кляшчэлях.** Мае ён сваю базу ў вёсцы Палічная. СКР-аўскія жывёлаводы дзеля павелічэння стада свіней выкарысталі для гадоўлі стадолу, якую ацяплілі, і два купленыя ў індывідуальнага гаспадара хлявы.

СКР у **Янаве** ў мінулым годзе меў сярэдні ўраджай чатырох асноўных збожжавых культур — 30 ц/га, калі ў той час сярэдняя ўраджаяў СКР-аў у Беластоцкім ваяводстве — 23 ц/га. Гэты СКР салідна і тэрмінова выканаў усе заказы на паслугі індывідуальным гаспадарам.

**Шудзялаўскі** СКР дастаўляе дзяржаве дзесятую частку ўсяго свінога мяса, якое прадаюць усе 37 беластоцкіх спулдзельняў сельгасгурткоў. Гаспадарыць ён на дзвюх тысячах гектараў зямельных угоддзяў і мае добрыя вынікі ў вырошчванні збожжавых культур. СКР у Шудзялаве вельмі многа зрабіў работы ў галіне рэкультывацыі.

Са спалучэння сельскагаспадарчых гурткоў з Васількоўскай і Супрасльскай гмін узнік у 1975 годзе СКР **у Васількове.** Вядзе ён гаспадарку на 913 гектарах. У гэтым годзе павялічыць свой арэал на 300 гектараў зямлі. У мінулым годзе васількоўскі СКР сабраў даволі высокі ўраджай збожжавых — 28 ц/га. Гадуе 398 бугайкоў. У гэтым годзе колькасць іх павялічыцца на 1 020 штук. У 1976 годзе СКР прадаў дзяржаве звыш 250 тон ялавічыны, а ў гэтым годзе прадасць на трыццаць тон больш. Паводле планаў у бліжэйшыя гады СКР будзе гадаваць 1 600 мясных бугайкоў і 480 малочных кароў. Будзе ён весці гаспадарку на трох тысячах гектараў. Ужо ў студзені гэтага года васількоўскі СКР апрацаваў план сельскагаспадарчых паслуг для індывідуальных гаспадароў у бягучым годзе. План гэты паспяхова рэалізуецца.

Усе спамянутыя ў інфармацыі спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў маюць добрую ацэнку ўлад ВЗКР у Беластоку. Яны заслугоўваюць на пахвалу.

**Янка Цялушэцкі**




*У адной вёсцы на Гайнаўшчыне ёсць слаўны чалавек, які ўсютка ведае і кожнаму дапаможа. Ён часта швэндаецца па судах у ролі сведка. За такія паслугі атрымаў шмат каштоўных падарункаў: касцюм, ручны гадзіннік, скураныя чаравікі. Апошнія ўжо стаптаў. Ён любіць гаварыць: — Рамантаваць чаравікі не варта. Адно слоўца — і будуць новыя.*

*Фарсун!*

**Е. С.**



*Новы гандлёвы цэнтр у Бельску.*

# БЕЛЬСК БАГАЦЕЕ

Пастаянна гэта не заўважаеш. Але той, хто апынуўся б у Бельску пасля двух- трохгадовага расстання, адразу ўбачыў бы, якія вялікія тут змены. Зусім як бы нехта вуліцы памяняў. Узяць хаця б Міцкевіча. Няма ўжо той ранейшай, са старымі драўлянымі хацінкамі. Пачынаючы ад Відаўскай і ідучы ў напрамку вакзала, убачым шмат чаго новага. Калі раней гэтыя прыгожыя жылыя дамы, светлыя прасторныя крамы, памяшканні ўстаноў былі толькі фантазіяй школьнікаў, пералітай на паперу ў працы: „Як будзе выглядаць мой горад", то сёння гэта ўжо рэальнасць. Безупынна тут нешта будуецца. З кожным годам Бельск багацее. Вось хаця б комплекс крам на рагу вуліц Міцкевіча і Відаўскай, які ўжо поўнасцю перададзены ў карыстанне. Напамінае ён сабой пусты ў сярэдзіне прамавугольнік, па знешніх баках якога размяшчаюцца крамы: спажывецкая і тэкстыльная, а таксама аптэка і дом паслуг. Гэта толькі адзін маленькі прыклад, а ў Бельску іх многа. Неўзабаве прыме першых наведвальнікаў новае кафэ. Бельск прыгажэе.

**Міхась Шаховіч**

Фота Я. Цялушэцкага

# МОЛАДЗЬ У НАСТУПЛЕННІ

У Васількоўскай гміне дзейнічае семнаццаць гурткоў ЗСМП з агульнай колькасцю 467 членаў.

У вялікай вёсцы **Студзянкі** аб'ядналася ў арганізацыю 47 чалавек. На чале яе стаіць старшыня Януш Рапіцкі. У стражацкай рамізе моладзь атрымала даволі прасторнае светліцовае памяшканне. Кіраўніцтва спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў у Васількове купіла ў святліцу столікі і крэслы, шматлікія настольныя ігры. Моладзь са Студзянак дапамагала пажылым адзінокім сялянам сабраць сена і збожжа, а таксама пры малацьбе. Нядаўна яна арганізавала наваголнюю ёлку для сем'яў стражакаў і танцавальную вечарыну. Мае моладзь у сваёй вёсцы і клуб „Рух", у якім штодзень ёсць свежыя газеты і часопісы, глядзіць тэлеперадачы наладжвае розыгрышы ў шахматы і шашкі.

Дружная моладзь жыве ў вёсцы **Навадворцы.** Дзейнічае тут 30-асабовая маладзёжная арганізацыя ЗСМП, якой кіруе Юрка Сасноўскі. Тут таксама наладзілася добрае супрацоўніцтва з ОСП. Месцам для культурнай дзейнасці з'яўляецца тут клуб селяніна. Тут заўсёды чыста, прыемна. У клубе ў кожную суботу адбываюцца маладзёжныя танцы пры магнетафоне, купленым з уласных складчын. У стражацкай рамізе моладзь мае свой куточак для працы фотааматараў. Апрача таго, пажарнікі перадалі моладзі таксама гітары. У клубе моладзь нядаўна наладзіла цікавую сустрэчу з намеснікам галоўнага рэдактара штомесячніка „Кантрасты" Дыянізам Сідорскім, які расказаў аб сваёй пабыўцы ў далёкай Сібіры. У пачатку студзеня гэтага года мясцовая моладзь арганізавала ёлку для тутэйшых школьнікаў. Усе мерапрыемствы адбыліся на працягу апошніх трох месяцаў, ад часу, калі ГС у Васількове зрабіў рамонт клуба.

У **Дамброўках** моладзь супольна з членамі ОСП пабудавала святліцу, у якой хоча абсталяваць клуб „Рух". У Дамброўках існуе свой музычны калектыў. Начальнік Васількоўскай гміны купіў моладзі гітары і магнетафон. Ініцыятарам маладзёжных пачынанняў з'яўляецца Галіна Юроўчык. Яе моладзь выбрала таксама старшынёю гуртка БТКТ. Тутэйшая моладзь часта арганізуе танцавальныя вечарыны. Інструментальны калектыў выступае на ўсіх гмінных урачыстасцях, між іншым, выступаў на мінулагодняй дажынкачнай урачыстасці ў Сахонях і з розных нагод у Васількове. Хлопцы задумалі стварыць маладзёжную каманду ОСП. Юнакі і дзяўчаты арганізавалі для дзяцей наваголнюю ёлку і намераны падрыхтаваць багатую мастацкую праграму на Дзень дзіцяці.

Моладзь з Дамбровак утрымоўвае кантакт з моладдзю з рамонтна-мантажнага прадпрыемства малочнай прамысловасці ў Беластоку. У рамках акцыі „Разам у навуцы і забаве" дамброўская моладзь гуляла ў беластоцкіх сяброў на „Андрэйкавай" вечарыне. Цяпер хоча запрасіць іх да сябе на кулік. А летам супольна будзе дапамагаць пры ўборцы збожжа індывідуальным сялянам і васількоўскаму СКР-у.

Добра працуе 33-асабовы гуртон ЗСМП у вёсцы **Рыбнікі,** якім кіруе энергічная дзяўчына Аліцыя Рыбнік. Моладзь сама адрамантавала памяшканне ў школьным будынку, сама зрабіла сталы, паставіла ля іх бярозавыя пні, каб на іх сядзець, упрыгожыла памяшканне. Грошы на гэта зарабілі пры пасадцы лесу. Начальнік гміны купіў моладзі магнетафон. Тут большасць дзяўчат. Яны арганізуюць урачыстасці на Дзень дзіцяці, Дзень жанчын, Дзень маці і Дзень бацькі. Дзяўчаты выступалі таксама з мастацкай часткай для дзяцей, якія прыязджаюць сюды адпачыць летам у ТПД-оўскім цэнтры.

У **Сахонях** у гуртку ЗСМП дзейнічае 29 асоб. Старшынствуе яму Анна Федзюкевіч. Культурная дзейнасць гуртуецца тут у прыгожым клубе селяніна. Моладзь арганізавала кабарэ, якое актыўна працуе над праграмай. У працы дапамагае ім настаўніца Марыя Вярцінская. Сахонеўская моладзь штогод дапамагае ў час жніва васількоўскаму СКР-у.

**Я. Цялушэцкі**




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### МАКСІМ ГАРЭЦКІ — ЧАСТКА X

**„Лірныя спевы".** Гэта адно з гістарычных апавяданняў Гарэцкага. Можна назваць яго гістарычным эцюдам. Гэта свайго роду плач пісьменніка над патібеллю княства Саламерэцкага. Канструкцыя твора адзначаецца арыгінальнасцю. Выступае ў ёй прынцып рэтраспекцыі — накладання мінулага на сучаснае. Твор пачынаецца ад начной сцэны. Жабрак-лірнік ідзе праз лес. Сэрца яго напоўнена жахам. Гэтым канчаецца ўступная сцэна. У далейшай частцы апавядання пісьменнік адштурхоўваецца ад жабрака і ад сучаснасці. Стварае карціну далёкага мінулага. Уваскрашае ў ёй лёсы князёў Саламерэцкіх. У апошніх двух адслонах зноў вяртаецца да жабрака-лірніка, да яго сустрэчы з духам княжны Саламерэцкай і да яго сумнага лёсу. Апавяданне „Лірныя спевы" гэта свайго роду сон аб магутнасці айчыны ў мінулым. А ў сне, як вядома, цяжка аддзяліць рэальнае ад фікцыйнага.

У малюнку слаўнага панавання князёў Саламерэцкіх заўважаюцца пахвальныя тоны. Аўтар выразна захапляецца дынамікай жыцця ў княстве.

„Грымелі гарматы, курыўся дым ад пораху і лілася чалавечая кроў. А ў святы вялікія хмель-віно ў чарах пенілася, ігралі гуслі-саматуды, пеялі старэцкія ліры, стогн стаяў ад гоману людскога і многа чаго дзеялася".

Далей аўтар гаворыць аб тым, што князі Саламерэцкія цвёрда абаранялі сваю незалежнасць і ад усходніх і ад заходніх суседзяў.

Па сутнасці галоўнымі героямі апавядання з'яўляюцца мніх Грыгоры, які служыў пры некалькіх пакаленнях князёў Саламерэцкіх, і апошні патомак князёў прыгожая Ганна, якая закахалася ў польскага князя Уладыслава Ваебойскага.

Грыгоры — гэта прадаўжальнік незалежнай лініі старых князёў Саламерэцкіх, якія княжылі „на карысць усіх радзімічаў". Грыгоры пераконвае Ганну ў неабходнасці бараніць бацькоўскія ўладанні, нягледзячы на чалавечыя ахвяры і матэрыяльныя кошты.

Ганна, аднак, кіруецца не розумам, а сентыментамі, якія, як вядома, прыводзяць у палітыцы да безнадзейных вынікаў. Тайком пакідае яна асаджаны Саламерэцк і накіроўваецца да свайго каханага. Аднак Грыгоры даганяе яе. Стараецца пераканаць у неабходнасці вядзення барацьбы за незалежнасць. Беспаспяхова. Ганна рашуча пастанаўляе ўцякаць да Ваебойскага. І ў той момант здарылася страшнае:

„Страшны стаўся поп сівы. Высока ўзняў святы крыж, падняў рукі і на калені зваліўся. Балюча паглядзеў услед княжне Ганне і на неба зірнуў.

— Божа наш, — крыкнуў ён. — Судзі нас, судзі мяне... Канец нам. Наша княжна пакінула нас, сплутала з Польшчаю і Маскве аддала. Вунь склычаліся ў бегні валасы яе, дык няхай жа расклычыць іх, няхай расплутвае...

Задрыжала зямля, полымя шуганула са ўсіх бакоў, пад грукат гармат і стогны байцоў шухнула ўсё аж на мілю кругом у зямлю на скрозьдонне..."

Вось такім чынам загінула Ганна, Грыгоры, Саламерэцк і яго слава.

У перадапошняй карціне апавядання пісьменнік паказвае жабрака, перад якім паяўляецца дух Ганны і просіць расчасаць ёй валасы. Перапалоханы жабрак не робіць гэтага, а Ганна праклінае яго, так як калісьці пракляў яе Грыгоры і зноў западае пад зямлю.

У апошняй адслоне апавядання бачым жабрака Янку Праклятага, які ходзіць па свеце і спявае аб славе, магутнасці і краху князёў Саламерэцкіх.

Па сутнасці дзве апошнія карціны апавядання высвятляюць усю яго істоту. Даведваемся з іх, што твор „Лірныя спевы" гэта апрацоўка легенды, балады, якую спявае лірнік. Пісьменнік выслухаў яе, даў ёй фабулу, уверагодніў, узмоцніў „фактамі", і паўстала такім чынам апавяданне.

# Мілейчыцкія хлебапёкі

Ёсць рэчы, якім няма цаны. Хлеб першы сярод іх. І тое, што хлеб у нас недарагі, зусім не значыць, што дастаецца ён нам лёгка. І таму неабходна беражна адносіцца да яго. А тут па-рознаму бывае. Шмат хлеба марнуецца. Калі ўжо трошкі падчарствее, не хочуць у краме браць яго, чакаюць свежага.

Але хлеб хлебу няроўны. У некаторых пякарнях пякуць хлеб вельмі смачны. Да такой трэба залічыць пякарню ў Мілейчыцах. І хто толькі туды прыедзе, абавязкова прывязе адну буханку пахучага, смачнага хлеба. Пякарня ў Мілейчыцах невялікая. Працуе яна на дзве змены і выпякае кожны дзень каля тоны хлеба, забяспечваючы ім Мілейчыцы і некаторыя вёскі. У пякарні працуюць чатыры пекары: Мечыслаў Езюк, Іван Кочук, Пётр Яновіч і Уладзімір Сулімовіч. Апрача іх, ёсць два вучні — Людвіг Анішчук і Станіслаў Казіцкі.

Нядаўна наведалі мы гэту пякарню. Кіраўнік пякарні Пётр Міхноўскі расказваў аб гісторыі і працы пякарні, а таксама пазнаёміў нас з кіраўніком новай пякарні ў Нурцы — Зыгмунтам Шабуневічам, які ў гэты дзень наведаў свайго калегу.

— У чым сакрэт, што мілейчыцкі хлеб хваляць? — звярнуўся я да іх.

— Тут яны пякуць хлеб у бляшаных формах, — адказаў на маё пытанне кіраўнік пякарні з Нурца. — Заўсёды хлеб смачнейшы з бляхі. Ды не толькі хлеб, але і іншыя хлебныя вырабы. Кіраўнік мілейчыцкай пякарні таварыш Міхневіч выказаў такую думку, што апальванне печы дровамі, асабліва сасновымі і асікай разам, таксама мае ўплыў на смакавыя якасці. Ды рэцэптура закваскі адыгрывае вялікую ролю, адпаведная тэмпература і вільгаць паветра.

Усё гэта добра ведаюць мілейчыцкія хлебапёкі. Прадукуюць яны розны хлеб: „Пражскі“, „Мазавецкі“, пшанічны, батоны, а таксама дрожджавае пячэнне.

Мясцовыя гмінныя ўлады высока ацаняюць сваю пякарню і сваіх хлебапёкаў і выражаюць незадавальненне, што іх пякарня не будзе разбудоўвацца, а ў будучыні перастане існаваць, таму што разбудоўваецца пякарня ў Нурцы. Але як бы там не было, мілейчыцкая пякарня ад 1945 года добра служыць мясцоваму насельніцтву.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**



# Ф-А-Л-Ь-К-Л-О-Р

**ВЯСНЯНКА**
**(„Огулька“)**




*Ой, коло млiна росцвiла калiна —*
*млода Гандюля подаркi бiлiла.*
*Она бiлiла, гором вышывала —*
*свого Колечкi штодзень дожыдала.*
*Мой ты Колечка, нэ баўсе, нэ баўсе —*
*ужэ ў моём саду вiноград розослаўсе.*
*Ужэ ў моём саду вiноград розослаўсе —*
*ужэ мой батэнько пуд тэбэ пудобраўсе.*
*Наробiў пiва, пiва солодкого —*
*пуд тэбэ, зятю, пуд тэбэ, молодого.*

Ад Шумарскай Мар'і, год 46, родам з вёскі Койлы, жыве ў вёсцы Буды ў Белавежскай пушчы, запісаў 12 кастрычніка 1976 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.




## Як Філімон Карпінскага ашукаў

Па абутак калісьці селянін не ішоў у краму, а ў лес. Вядома, па лыка, з якога потым рабіў лапці. Ведаюць аб гэтым на вёсцы яшчэ паўсюдна, таму не буду распісвацца на гэтую тэму. Сказаць толькі трэба, што лапці служылі няраз селяніну даўжэй, чым сучасны абутак. А пра рэкламацыю ніхто тады і не чуў. Ды дарэчы!

Сцвердзіў аднойчы Філімон Вашкевіч, які жыў у Белавежы, што яго лапці неўзабаве рассыплюцца. Каб не дацягнуць да крайнасці, пастанавіў пайсці ў лес па лыка. Яго яшчэ ж трэба адпаведна падрыхтаваць, каб выкарыстаць. Ды куды ж пайсці, як не ў запаведнік прыроды? Філімону чужыя былі правілы аховы прыроды. Дазваляць, каб дрэва гніло? Што ж гэта за ахова? Ён не мог ніяк сабе гэтага вытлумачыць. Так і пайшоў. Ліп у запаведніку было многа, таму доўга і не забавіўся. Надраў некалькі скруткаў, закінуў на плечы і... раптам, бачыць, стаіць перад ім праф. Карпінскі, дырэктар запаведніка. Штрафу, ды вялікага, здавалася не пазбегнуць. Ды Філімон — мужык быў не лыкам шыты. „Пане дырэктар, — пачаў ён, — я то яшчэ мала надраў, але той, што вось там, за тым вялікім выкротам, мусіць з дзесяць разоў больш за мяне мае скруткаў“.

Дырэктар аж падскочыў. Не можа быць, і бягом рушыў у тым напрамку. Філімону гэтага і трэба было. З месца рушыў у супрацьлеглы напрамак. За выкротам, зразумела, нікога не было.

Факт гэты здарыўся ў міжваенны перыяд. Але потым, нягледзячы на гэта, Карпінскі вельмі палюбіў Філімона і, можна сказаць, не было такога жыхара Белавежы, якому давяраў бы больш, чым яму. Філімон быў першы ў яго, калі трэба было наняць падводу. Суправаджаў таксама прафесара ў шматлікіх экскурсіях па пушчы, бо пушчу знаў, як свае пяць пальцаў. Карпінскі ўвекавечыў Філімона на старонках сваіх кніжак. Абое ўжо не жывуць.

**П. Байко**

НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

## Спорт у гміне

У Сямяціцкай гміне дзейнічае 21 гурток ЛЗС з агульнай колькасцю 847 членаў, у тым ліку 329 дзяўчат. Моладзь з Сямяціцкай акругі вельмі ахвотна ўдзельнічае ў матаровых спаборніцтвах „За залатую каску“, экскурсіях на веласіпедах, у мерапрыемствах „З візітам у суседзяў“ і „Вясёлая нядзеля ў вёсцы“.

Найактыўней працуе гурток ЛЗС у сельскагаспадарчым тэхнікуме ў Чартаеве, які ўзнагароджаны значком „Амега“, прызнаваным найлепш працуючым ЛЗС-ам. Найлепшымі спартсменкамі тут з'яўляюцца: Яўгенія і Эльжбета Салінскія, Барбара Багушэўская, Крыстына Датчук, а спартсменамі: Тадэуш Раманчук, Андрэй Руткоўскі, Казімір Здзіхоўскі, Тадэуш Коц і інш. Апрача таго, актыўнасцю вылучаюцца гурткі ЛЗС у Турне, Вульцы, Сківах, у ОГП і ПОМ у Сямяцічах, Рагаўцы і Чартаеве-вёсцы. Да тых звенняў, якія не вельмі ахвотна праявілі сябе ў спартыўнай дзейнасці, належаць гурткі ЛЗС у Клапотах Буйны, Каянцы, Крупіцах і Слохах.

Вясковым спартсменам у Сямяціцкай гміне найбольш дапамагаюць улады гміннай і гарадской управы. У мінулым годзе было закуплена шмат спартыўных прыладаў і рознага спартыўнага аснашчэння на суму 80 тысяч злотых.

На нядаўнім з'ездзе дэлегатаў, які адбыўся 23 студзеня гэтага года невыпадкова функцыя старшыні гміннай рады ЛЗС у Сямяцічах даверана начальніку гарадской і гміннай управы інж. Віктару Валендзюку. (ця)

**Весткі з Боцькаўскай гміны**

Вёска Дзяціннае ў гміне Боцькі невялічкая. Яна складаецца з трыццаці гаспадарак. Жывуць тут актыўныя і ініцыятыўныя людзі. Да іх належаць: Аляксандр Юрчук, Мікалай Юрчук, Ян Юрчук, Ян Шум, Антон Хвашчэўскі і яшчэ некалькі асоб. Дзякуючы ім быў пабудаваны ў Дзяцінным будынак святліцы. Жыхары гэтага сяла выкарысталі з гэтай мэтай адзін з ліквідаваных ў Беластоку драўляных будынкаў. Купіла яго гмінная ўправа ў Боцьках. І так атрымалася даволі вялікая, прасторная і ўтульная святліца. У ёй адбыліся вясковыя сходы і пачалі прыязджаць механікі з кінаперасоўкай.

## НОВЫЯ КЛУБЫ

Вялікую радасць перажываюць зараз жыхары гэтай вёскі — у іх святліцы нядаўна бельскі аддзел прадпрыемства „Рух“ абсталяваў свой клуб. У клубе моладзь пачала арганізоўваць свае вечарыны, абмяркоўваць свае справы, склала багаты план культурна-асветнай працы.

Не хацелі быць горшымі жыхары амбітнай вёскі Старовесь. Яны таксама пабудавалі святліцу пры дапамозе гмінных улад. Вялікая тут заслуга солтыса Антона Куравіцкага, сакратара пярвічнай партыйнай арганізацыі Адама Пішчатоўскага, Фёдара Ярашэвіча, старшыні КГВ Капусняк і іншых.

Святліцу пабудавалі ў сваёй вёсцы жыхары Шашылаў. Ім таксама купіла будынак гмінная ўправа. Вялікае заангажаванне ў пабудове святліцы праявіў солтыс Аляксандр Ляшук.

У бліжэйшым часе ў святліцах у Староўсі і Шашылах будуць адкрыты клубы „Рух“. (ця)

## Актыўныя жанчыны

Гурток вясковых гаспадынь у Палічнай (гміна Дубічы Царкоўныя) налічвае 35 асоб. Яго дзейнасцю кіруе Ніна Ігнацюк.

У мінулым годзе палічнаўскія жанчыны арганізавалі вяндлінярскі курс, на які хадзіла 18 асоб, а таксама курс пячэння пірагоў і кравецкі, на які было больш ахвотных — на кожны з іх хадзіла па 30 асоб.

У гэтым годзе КГВ купіць парніковыя шыбы і зможа вырошчваць рассаду і раннюю гародніну. Летам будзе ўдзельнічаць у конкурсе на найлепш дагледжаныя агародчыкі з гароднінай і кветкамі. У сакавіку жанчыны пачнуць супольна гадаваць куранят. Будуць мець трыста-чатырыста куранят. У красавіку арганізуюць мінікурс пячэння пірагоў і розных хлебабулачных вырабаў, а ў лістападзе курс ручной вышыўкі, паколькі гэта адзін з любімых заняткаў амаль усіх тутэйшых гаспадынь.

Вясковай жаночай арганізацыі ў Палічнай дапамагае ў працы Лідзія Сасноўская, штатны працаўнік СКР у Кляшчэлях. (ця)

Этнаграфічнае акенца



*Вёска Аўгустова каля Бельска.*
*Фота М. Гайдука.*

## Halina Frąckowiak



### ФОТА ПА ЗАКАЗУ

**Заказвалі:**
Валя і Юрка Алемпеюкі, Ірэна Мартынюк з Баброўкі.

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, заўсёды марыла я аб сапраўдным каханні. Сяброўкі расказваюць пра „сваіх“ хлопцаў, адна перад другой хваляцца. А мне сумна, я вельмі нясмелая і гаварыць з хлопцамі мне цяжка. З сяброўкамі магу пагаварыць на розныя тэмы, а ў класе лічаць мяне адной з найпрыгажэйшых дзяўчат. У нашым класе вучацца толькі дзяўчаты, і там я сябе адчуваю зусім свабодна. А вось калі толькі апынуся сярод хлопцаў, не ведаю, аб чым з імі гаварыць, чырванею, саромеюся і як мага хутчэй ад іх уцякаю. Сяброўкі ведаюць, што я такая, і аднойчы захацелі пазнаёміць мяне з хлопцам. Ну і што ж, калі я з ім спаткалася, быў вясёлы, мілы, відаць, спадабалася я яму, але ўжо больш мы не спаткаліся. Так і на забаве. Не стаю пад сценкаю, але рэдка калі затанцую два разы з адным хлопцам. Неўзабаве буду гуляць на вяселлі ў сяброўкі, і баюся, што ізноў паўторыцца тое ж. Вось таму, пакуль яшчэ ёсць крыху часу, адважылася напісаць да цябе і прасіць дапамогі.

„Нясмелая“ Галя

Галя! Пішаш, што прыгожая ты, любяць цябе сяброўкі, умееш з імі пагаварыць. Вось жа за такімі дзяўчатамі і хлопцы ганяюцца. А ў цябе штосьці не так. І віна, як сама кажаш, у тым, што ты нясмелая ў адносінах да хлопцаў. Мо ў вашай сям'і, або па-суседску хлопцаў не было, а цяпер няма ў класе... А яны такія ж як і дзяўчаты. Мала таго, у пэўным узросце дзяўчаты нават перавышаюць хлопцаў сваёй дарослацю. І не саромся хлопцаў, адважна, як з дзецьмі з імі гавары. Бо кажуць, што і дарослыя мужчыны, гэта адно вялікія дзеці. Чаго ж тады іх саромецца? Дык на вяселлі паводзь сябе смела і свабодна.

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Учора мне прысніўся такі сон. Сяджу я ў хаце і штосьці выціскаю на твары. Раптам бачу, што мае губы пад носам разарваныя, нібы ў звёздачку. Але крыві зусім няма. Я перапалохалася — праз тыдзень маю ж я ісці ў госці (сапраўды мела ісці ў госці). Не плачу, але баюся, каб не застацца калекай на ўсё жыццё. Думаю, як аб гэтым сказаць маме. Мама не крычала на мяне, толькі вельмі засумавала. Але я стала яе супакойваць. Кажу, што можна сшыць рану, і яна яшчэ загоіцца да нядзелі. І тут я прачнулася. Што гэта можа абазначаць: добрае, ці дрэннае?

Агата

Сніцца мне, быццам я ў канец вёскі іду сцежкай. Бачу: расце высокая зялёная трава, як жыта. Іду далей, далей лепшая і руніць. Я падумаў: шкада, такое добрае поле прадаў гэты гаспадар. Іду далей, дарога робіцца мокрай (называюць рэчкай), я стараюся пераступіць з купіны на купіну, каб моцна не замачыцца. Пачаў марасіць дождж. Раптам ад захаду неба пакрылася цёмнымі, сінімі хмарамі, якія пачалі занімаць цэлае неба. Надыходзіць навальніца, мне стала страшна. Я гляджу на ўсход; бачу, стаіць прыгожы белы дом, пакрыты чырвоным дахам. Кругом растуць высокія зялёныя дрэвы. Я падумаў, ці не схавацца ў гэтым доме ад навальніцы. Але гляджу, хмары быццам пачалі разыходзіцца, на поўдні пачало паказвацца неба. Я падумаў: няма чаго хавацца — навальніца пойдзе бокам. І прачнуўся.

Коля

**Агата!** Не хвалюйся: бачыць рану — азначае здароўе і дабрабыт.

**Коля!** І твой сон добры. Высокая, зялёная трава, добрае поле. Нічога, што дарога пасля стала мокрай і ты мусіў пераскакваць з купіны на купіну (можа, будуць невялікія затрудненні ў справах). Галоўнае, што пайшоў дождж, а дожджык заўсёды абазначае поспех у справах, нейкую ўдачу ці буйны прыбытак. Навальніцы не бойся. Хаця абазначае яна нейкую небяспеку і выпрабаванне, то ўсё ж заўсёды прадвяшчае добрае заканчэнне справы. Ды, зрэшты, твая навальніца і так прайшла міма.

**Астрон**

## Кутох практычных ведаў

### ПРАКТЫЧНА І ПРЫГОЖА

Як апранаць хлопцаў у школьным узросце? Зразумела, практычна. Хлопцы ж увесь амаль час знаходзяцца ў руху, нават у школе (на перапынках). Любяць яны займацца спортам, гуляць у мяч, ездзіць на веласіпедзе, і тады нішто не павінна перашкаджаць ім у гэтым. Вопратка павінна быць свабодная і зручная.

Але... чаму яна мае быць абы-якая? Няхай жа яна будзе адначасова і прыгожая, няхай цешыць наша вока, тым больш, што густоўная вопратка не мусіць быць даражэйшай за сумную і непрыгожую.

Гляньце на гэтых двух хлопцаў. У аднаго прыгожыя штонікі ў клетку, цёплы свіцер і цёмная куртачка, а пад ёю кароткі жылецік. Не кажу, што жылецік неабходны пры гульні ў мяч, але дзе вы бачылі хлопца, які б некалькі разоў у дзень пераапранаўся? А вось накінуў жылет і куртачку — і ўжо зусім элегантны хлопец.



У другога хлопца мы бачым вельмі прыгожую кароткую куртачку на замку. Яна аздоблена спераду скурай, якая робіць куртку вельмі арыгінальнай.

**Сяброўка**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Пасля смерці маці засталася гаспадарка — 2,5 га. Маці пакінула завяшчанне, у якім гаспадарку запісала дачцы Т., якая пражывала разам з ёй, дапамагаючы весці гаспадарку. У той жа вёсцы мае сваю гаспадарку і сын завяшчальніцы, які завяшчання не прызнае і закідае, што Т. не з'яўляецца земляробам і што жыве яна з зарплаты мужа, які працуе на дзяржаўным прадпрыемстве і атрымоўвае каля пяці тысяч у месяц, а гаспадарка для іх з'яўляецца толькі дадатковай і нязначнай крыніцай даходаў. Ці можа ён дамагацца, каб суд прызнаў спадчынную гаспадарку яму?

АДКАЗ: У завяшчанні можна запісаць гаспадарку толькі таму, хто згодна з законам мае кваліфікацыі для наследавання гаспадаркі, г.зн. перад смерцю завяшчальніка працаваў на яго гаспадарцы, або асобна займаўся сельскай гаспадаркай — на гаспадарцы ўласнай, жонкі або бацькоў, або быў членам сельскагаспадарчага кааператыва. У нашым прыкладзе дачка завяшчальніцы працавала на яе гаспадарцы, а тым самым мае прадбачанае законам права на наследаванне сельскай гаспадаркі. Факт, што яе муж працуе на дзяржаўным прадпрыемстве і зарабляе столькі, што гаспадарка з'яўляецца для іх толькі дадатковай крыніцай даходаў, не мае ў даным прыкладзе значэння; не бяруцца пад увагу ані даходы мужа дачкі, ані тое, што ён не з'яўляецца земляробам, лічацца толькі кваліфікацыі дачкі.

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### КЛОУН

Слова „клоун“ паходзіць ад лацінскага „калонус“ (сельскі жыхар). Для англійскіх сёл у старажытныя часы былі характэрны пагалоўная непісьменнасць, цемната, невуцтва. Частыя насміханні і здзекі памешчыкаў і багатых гараджан ставілі сельскіх жыхароў у асабліва ўніжанае становішча. І ў камедыях тады шут, як правіла, быў сельскім жыхаром. Таму яго называлі „калонус“, які пазней перарабілі ў кароткае — клоун.




— Слухай, браток, мяне ўважліва, — нас засеклі. Гэта дакладна. Пойдзеш у горад адзін. Спачатку ў бок, у той роў, а потым ужо ў горад. Пойдзеш міма Двалі. Да яго амаль адкрыта ідзі, хавайся толькі для выгляду. А ад яго ў роў. Каб сам госпадзь бог не ўбачыў. Зразумела? Двалі перадай, каб адразу ішлі да нас, адразу, як толькі ты папаўзеш да рова. Трэба адцягнуць увагу фрыцаў.

— Рацыю, сказаць, каб знішчылі?

— Пачакай. Гэта паспеем. На нас не разлічвай. Здабывай разведку і прабірайся да нашых.

— А вы як жа, таварыш маёр?

— Дзівак чалавек! Цябе, што, на курорт пасылаюць? Табе, Вася, самае цяжкае. Ідзі! А мы пастаім за сябе, не хвалюйся. Але памятай: чым хутчэй даставіш разведку, тым больш шанцаў на нашу сустрэчу. Выконвайце, таварыш Машкін.

Габрыэл кіўнуў і папоўз назад, да кустоў, дзе прытаілася група Двалі.

Арам хутка растлумачыў становішча тым, хто застаўся. Усе трое выслухалі спакойна. Коля Сітнікаў адшпіліў і паклаў побач дзве „лімонкі“ і нож. Аркадзь Смірноў дакрануўся да дыска свайго кулямёта — ці трывала сядзіць. Мікаладзе бліснуў вачыма і амаль радасна заявіў:

— Я ж ведаў, таварыш камандзір, разведка боем — самы надзейны разведка. Колькасць фашыстаў можна самому карэкціраваць. Калі вельмі многа, глянуў і зрабіў вельмі мала.

Падпаўзлі і залеглі побач паўкругам разведчыкі Двалі. Сам капітан ні аб чым не распытваў Мірзаяна. Машкін усё паведаміў ужо яму. Цяпер трэба чакаць, што зробіць праціўнік.

Але Арам не думаў цяпер аб хуткім баі. Уласна, тут усё было зразумела. Ісці няма куды. Мільганула думка: нядрэнна было б дайсці да горада або хоць бы вярнуцца да аднаго з тых пакінутых дотаў, міма якіх прайшлі. Там было б больш шанцаў пратрымацца да нашага наступлення. Тут жа амаль адкрытая мясцовасць. Немцы могуць нават не хадзіць у атаку, а закідаць мінамі. Зноў, каторы ўжо раз за вайну, трэба было сустрэцца са смерцю. Аб гэтым лепш не думаць. А аб чым лепш думаць?

Сонца паднялося даволі высока і моцна прыпякала чорныя эсэсаўскія шынялі. Вясна... Арам усміхнуўся. Аб вясне прымусіла ўспомніць гэта ненавісная форма — тых, хто хацеў адмяніць вясну. Парадокс...

Ён падпоўз да радыста: падштурхнуў да яго цяжкі мех з рацыяй.

— Паспрабуй выклікаць нашых. Перадай нашы каардынаты. Вось, вось і вось.

Арам паклаў перад радыстам раскрыты планшэт. Алоўкам адзначыў месца на карце.

— Таварышы, ці ўсе мяне чуюць? — нягучна спытаў Арам.

— Усе, таварыш камандзір!

— Чуем.

— Калі мы не памыліліся, таварышы, нас чакае цяжкі, відаць, апошні наш бой з ворагам. Немцы засеклі нас. Іх задумы мы не ведаем, але жывымі, думаю, ніхто з нас ворагу сябе не аддасць. Я прыняў рашэнне, таварышы, выклікаць сюды агонь нашай артылерыі, калі нас пачнуць атакаваць. Гэта будзе ў самы апошні момант. Падкрэсліваю. У самы апошні. Да гэтага кожны павінен зрабіць усё, каб даражэй прадаць сваё жыццё гадам. Ці ўсе згодны з маім рашэннем, таварышы?

— Таварыш камандзір, злева фрыц паўзе. Можна страляць?

— Адзін?

— Так точна.

— Пачакай... Не страляць! Машкін? Ты?

— Там, метраў за дзвесце адсюль... каналізацыя... Шырокі лаз. Я падумаў, таварыш камандзір... Можа?

— Паспрабуем. Капітану па ланцугу перадай: па адным з інтэрвалам трыццаць секунд няхай паўзуць за табой.

— Пару шынялёў пакінуць бы з фуражкамі на месцы, як пудзілы, таварыш камандзір?

— Давай. І мы тут таксама. Потым за вамі. Пакажы яшчэ раз, дзе лаз.

* ❊ *

Меркаванне Машкіна пацвердзілася. Знойдзены ім лаз вёў у шырокую каналізацыйную трубу. Гэта была галоўная гарадская магістраль, цяпер, відаць, выведзеная са строю на нейкім участку.

Па трубе можна было ісці амаль на поўны рост, і група ішла даволі хутка. Арам з Машкіным наперадзе. Двалі ззаду. Замыкаючым ішоў Сітнікаў, несучы ў завязаным вузлом шынялі ўсе наяўныя гранаты. Арам вырашыў такім чынам узарваць і заваліць трубу, калі будзе пагоня. Але пакуль усё было ціха. Каля гадзіны ішлі разведчыкі, калі раптам пачулі знадворку глухі шум, які нарастаў. Мірзаян вырашыў, што труба вывела іх пад шашу, на якой праходзяць нямецкія танкі. Шум нарастаў, і ўжо выразна можна было пачуць цяжкае бразганне гусеніц. Машкін, які прайшоў уперад крокаў сто, вярнуўся і далажыў, што праходу далей няма, што труба завалена.

Арам вырашыў паспрабаваць расчыніць завал і прабіцца наверх. Але зрабіць гэта трэба было вельмі асцярожна. Аб тым, што адбываецца там, над імі, разведчыкі маглі толькі меркаваць.

(Працяг будзе).

